*ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА* *ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.*

# ПАГОНЯ

*№ 7 (106)* *17 – 23 лютага 1995 г.* *Кошт 150 рублёў*

*Характэрнай рысай дзейнасьці Прэзідэнта зьяўляецца невыкананьне законаў і самаўпраўства.* **- ст 2.**

*Гэтыя хеўры на нашым горы шыкуюць... Антончыка на іх патрэбна, вось каго!* **- ст. 3.**

*"Трохзоркавы" вырабляўся на кватэры па вул. Пестрака, зьмешваньнем "вогненнай вады" і афарбавальнікаў.* **- ст. 8.**

*ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква - Санкт-Пецярбург.*

## ПНЗ ПРЫМАЕ НОВУЮ ПРАГРАМУ

У Менску адбыўся зьезд Партыі народнай згоды (ПНЗ). На зьезьдзе была прынята новая праграма партыі , а таксама выпрацавана тактыка дзеяньняў на маючых адбыцца парламенцкіх выбарах.

Лідэр партыі - спадар Карпенка - выступіў з дакладам, у якім даў адмоўную характарыстыку прэзідэнту і яго каманьдзе. Да таго ж Генадзь Карпенка абвергнуў чуткі аб магчымым супрацоўніцтве ПНЗ з прэзідэнтам падчас парламенцкіх выбараў.

Апанентам спадару Карпенку выступіў член палітычнага савету ПНЗ, начальнік службы кантролю прэзідэнцкай адміністрацыі - Васіль Даўгалёў. Спадар Даўгалёў безвынікова спрабаваў узьняць пытаньне аб перавыбарах кіраўніцтва ПНЗ, на гэты захад калегі Генадзь Карпенка заявіў: "Магчыма, пасьля выбараў я пайду з пасады старшыні ПНЗ сам".

## АДПБ ЗАЦЬВЕРДЗІЦЬ ПЕРАДВЫБАРЧУЮ ПРАГРАМУ У САКАВІКУ

На прайшоўшай нарадзе Аб'яднана-дэмакратычнай партыі Беларусі (АДПБ) быў прыняты ў першым чытаньні праект передвыбарчай праграмы. Галоўнай ідэяй гэтага дакумента зьяўляецца зьвядзеньне да мінімуму ролі дзяржаўнага кіраваньня ва ўсіх сферах грамадзтва, а таксама жаданьне замяніць дамінуючыя сёньня у палітыцы размовы аб рэальнай фінансавай падтрымцы ў любой вобласьці.

На нарадзе было разгледжана больш за 80 кандыдатур для ўдзелу ў выбарах у Вярхоўны Савет.

Сьпіс кандыдатаў у дэпутаты і передвыбарчыя праграмы АДПБ будуць зацьверджаны ў сакавіку.

Вядома, што партыя падрыхтавала неабходныя дакументы для перарэгістрацыі.

## БСДГ ЗЬБІРАЕЦЦА ВЫЛУЧЫЦЬ П.КРАЎЧАНКА

Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада (БСДГ) на будучых выбарах наважылася вылучыць у якасьці кандыдата ў дэпутаты былога міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пятра Краўчанка, які нядаўна стаў членам гэтай партыі.

Лідэр БСДГ Алег Трусаў не выключыў такой магчымасьці, але адмовіўся ўдакладніць, па якому выбарчаму ўчастку будзе балатавацца спадар Краўчанка ў выпадку яго зацьвярджэньня кандыдатам.

## ГАЙДУКЕВІЧ СТАЎ ЛІБЕРАЛ-ДЭМАКРАТАМ

Лідэр Народнага руху Беларусі (НРБ) Сяргей Гайдукевіч стаў першым намесьнікам старшыні Беларускай Ліберальна-дэмакратычнай партыі (ЛДП).

У самы блізкі час, па зьвестках блізкіх для ЛДП колаў, мяркуецца сустрэча лідэра беларускіх ліберал-дэмакратаў Васіля Крывенка з прэзідэнтам Беларусі А.Лукашэнка.

**СІМ**

## МЯСТЭЧКА ШЫЛАВІЧЫ ЗА САЮЗ З РАСЕЯЙ?

Да 80% персаналу славутага аб'екту "Вілейка", які на самай справе знаходзіцца паблізу мястэчка Шылавічы, - жыхары гэтага мястэчка. Для большасьці - гэта адзіная магчымасьць больш-менш аплочваемай працы ў наш час павальнай беднасьці. Таму шмат хто ўзрадаваўся, што яшчэ 25 гадоў аб'ект будзе стаяць на нашай зямлі ў выніку пагадненьня, падпісанага М.Чыгіром з Расеяй. Але ці ведаюць астатнія Шылавічы, што за зьмяюка прыгрэлася ў іх пад бокам.

Аб'ект "Вілейка" - гэта радыёстанцыя, арыентыр часу для расейскіх караблёў, самалётаў ВМФ, падводных чаўноў, у тым ліку і ядзерных.

У выпадку канфлікту паміж Расеяй і, скажам, НАТА, радыёстанцыя будзе зьнішчана ў першую чаргу і, прабачце, разам з Шылавічамі ды і, мабыць, з усім Вілейскім раёнам.

**В.С.**

## ЛІДУ ПРАВЕРТЫКАЛІЛІ

1 лютага ў Лідзе адбыліся сесіі гарадзкога і раённага саветаў, дзеля завяршэньня фарміраваньня прэзідэнцкай вертыкалі.

Спадар Дубко прапанаваў пакінуць на пасадзе старшыні гарвыканкама Уладзіміра Мальца, з чым дэпутаты без вялікіх пярэчаньняў пагадзіліся.

Але сітуацыя рэзка зьмянілася, калі сьледам паспрабавалі выбраць старшыню гарсавета. Па наменклатурнай традыцыі быў прапанаваны першы намесьнік старшыні гарсавета Аляксандр Рамановіч. Дэпутатам ад Беларускага Народнага Фронту Лявонам Анацкам тут жа быў прапанаваны сябра Лідзкай гарадзкой рады БНФ Сяргей Лазарэвіч. Ці такога нахабства не чакалі, ці наменклатурныя гульні значнай частцы дэпутатаў надакучылі, але шалі вагаў пачалі хіліцца ў бок Лазарэвіча. Трэба было ратаваць становішча і тут усе ўспомнілі, што выбараў старшыні савета зусім няма ў павестцы дня. Гэта пытаньне было адкладзена да чарговай лютаўскай сесіі гарсавета. А пакуль што абавязкі старшыні будзе выконваць А.Рамановіч. А за месяц дэпутатаў спадзяюцца апрацаваць.

Што датычыць сесіі райсавета, то калі б на Беларусі была кніга рэкордаў Гінеса, то ёй там бы знайшлося пачэснае месца. Сесія пачалася ў 14.00. У 14.32 Дубко прапанаваў абраць старшынёй райвыканкама старшыню калгаса імя Чапаева А.Блюдніна. У 14.34 сп.Блюднін ужо, ў якасьці старшыні райвыканкама, сядзеў у прэзідыуме. Старшынёй райсавета застаўся У.Цімчанка.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## ПА ФАКТАХ ПАРУШЭНЬНЯЎ СКЛАДЗЕНЫ АКТЫ

Сябры камісіі Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" па барацьбе з карупцыяй і за сацыяльную абарону насельніцтва правялі праверку некаторых харчовых крамаў Горадні. У прыватнасьці, сябры камісі, правяраючы краму N 15 "Садавіна-агародніна" выявілі шэраг парушэньняў правілаў гандлю і санітарных нормаў. Тое ж самае было выяўлена і ў краме N 11 Гархарчгандлю. Па фактах парушэньняў складзены акты, копіі якіх перададзены ў абласны савет прафсаюзаў у аддзел абароны правоў спажыўцоў.

**Р.ФАРМАНЯН.**

## «САВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ» БОЛЬШ НЯМА

Перастаў існаваць адзін з буйнейшых калгасаў Іўеўшчыны "Савецкая Беларусь". Ён быў створаны некалькі гадоў таму шляхам аб'яднаньня двух калгасных гаспадарак - імя Калініна і "17 верасьня".

Агульны сход упаўнаважаных калгасьнікаў прыняў рашэньне аб цывілізаваным разводзе. Цяпер будуць існаваць калгасы з цэнтрамі ў вёсцы Лелюкі і ў вёсцы Ляжневічы. Такім чынам, нават калгасныя імперы разбураюцца.

**М.ВАСІЛЕВІЧ.**

# БЕЛАРУСЬ: ОПТАМ І Ў РОЗЬНІЦУ

(Заканчэньне. Пачатак у N6.)

## КАМЯНТАР

### да Пагадненьня паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Расейскай Федэрацыі аб асноўных прынцыпах стварэньня фінансава-прамысловых груп

Структура дакумента складаецца з прэамбулы і 15 артыкулаў, якія канкрэтызуюць механізм стварэньня фінансава-прамысловых груп (ФПГ).

У артыкуле 1 даецца азначэньне ФПГ, дэклэруецца мэта стварэньня, сродкі, вызначаны шлях дасягненьня пастаўленай мэты.

Азначэньне ФПГ. Цытата:

"ПАД ФІНАНСАВА-ПРАМЫСЛОВАЙ ГРУПАЙ БАКІ РАЗУМЕЮЦЬ ГРУПУ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ, УСТАНОЎ, КРЭДЫТНА-ФІНАНСАВЫХ УСТАНОЎ І ІНВЕСТЫЦЫЙНЫХ ІНСТЫТУТАЎ".

Сродкі стварэньня ФПГ. Цытата:

"Бакі будуць садзейнічаць стварэньню фінансава-прамысловых груп на базе гаспадарчых суб'ектаў Рэспублікі Беларусь і Расейскай Федэрацыі".

Камянтар: дзяржаўная ўласнасьць, якая належыць прыватызацыі, у адпаведнасьці з Законам аб прыватызацыі, павінна быць на 50 працэнтаў перададзена грамадзянам Рэспублікі Беларусь бясплатна.

Мэта стварэньня ФПГ. Цытата:

"...АТРЫМАНЬНЕ ПРЫБЫТКУ..."

Без камянтараў.

Шляхі дасягненьня мэты. Цытата:

"...УСТАНАЎЛЕНЬНЕ І РАЗЬВІЦЬЦЁ ТЭХНАЛАГІЧНЫХ І КААПЕРАЦЫЙНЫХ СУВЯЗЯЎ, РАСПРАЦОЎКІ І РЭАЛІЗАЦЫІ САЦЫЯЛЬНА І ЭКАНАМІЧНА ЗНАЧНЫХ ПРАГРАМ І ПРАЕКТАЎ"

Прыводзім цалкам артыкул 1 у рэдакцыі, падпісанай прэм'ер-міністрам Рэспублікі Беларусь.

"АРТЫКУЛ 1. БАКІ БУДУЦЬ САДЗЕЙНІЧАЦЬ СТВАРЭНЬНЮ ФІНАНСАВА-ПРАМЫСЛОВЫХ ГРУП НА БАЗЕ ГАСПАДАРЧЫХ СУБ'ЕКТАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ І РАСЕЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ.

ПАД ФІНАНСАВА-ПРАМЫСЛОВАЙ ГРУПАЙ БАКІ РАЗУМЕЮЦЬ ГРУПУ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ, УСТАНОЎ, АРГАНІЗАЦЫЙ, КРЭДЫТНА-ФІНАНСАВЫХ УСТАНОЎ І ІНВЕСТЫЦЫЙНЫХ ІНСТЫТУТАЎ, СТВОРАНУЮ НА ПАДСТАВЕ АБ'ЯДНАНЬНЯ КАПІТАЛАЎ УДЗЕЛЬНІКАЎ З МЭТАЙ ВЯДЗЕНЬНЯ СУМЕСНАЙ ВЫТВОРЧАЙ І ІНВЕСТЫЦЫЙНАЙ ДЗЕЙНАСЬЦІ, УСТАНАЎЛЕНЬНЯ І РАЗЬВІЦЬЦЯ ТЭХНАЛАГІЧНЫХ І КААПЕРАЦЫЙНЫХ СУВЯЗЯЎ, АРТЫМАНЬНЯ ПРЫБЫТКУ, РАСПРАЦОЎКІ І РЭАЛІЗАЦЫІ САЦЫЯЛЬНА І ЭКАНАМІЧНА ЗНАЧНЫХ ПРАГРАМ І ПРАЕКТАЎ".

У артыкуле 4 сапраўднага Пагадненьня вызначана прававая норма, у якой будзе функцыянаваць ФПГ, - акцыянерныя таварыствы адкрытага тыпу, вызначаны парадак абавязковага дэлегаваньня правоў усіх уваходзячых у ФПГ прадпрыемстваў, бакоў, страхавых кампаній, інвестыцыйных фондаў аднаму ўдзельніку акцыянернага таварыства - галоўнаму прадпрыемству. Пры гэтым застаецца незразумелым, што і каго разумеюць бакі - удзельнікі Пагадненьня - пад "галоўным прадпрыемствам".

Прывядзем канцэптуальную частку артыкула 4.

"БАКІ ВЫЗНАЧАЮЦЬ, ШТО ФАРМІРАВАНЬНЕ ФІНАНСАВА-ПРАМЫСЛОВЫХ ГРУП У ДАБРААХВОТНЫМ ПАРАДКУ РОБІЦЦА ШЛЯХАМ:

ЗАСНАВАНЬНЯ ЎДЗЕЛЬНІКАМІ ГРУПЫ АКЦЫЯНЕРНАГА ТАВАРЫСТВА АДКРЫТАГА ТЫПУ;

ПЕРАДАЧЫ ЎДЗЕЛЬНІКАМІ ГРУПЫ ЗНАХОДЗЯЧЫХСЯ Ў ІХ УЛАСНАСЬЦІ ПАКЕТАЎ АКЦЫЙ, ШТО ЎВАХОДЗЯЦЬ У ГРУПУ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ І ФІНАНСАВА-КРЭДЫТНЫХ УСТАНОЎ У ДАВЯРАЛЬНАЕ ЎПРАЎЛЕНЬНЕ АДНАМУ З УДЗЕЛЬНІКАЎ ГРУПЫ (ГАЛОЎНАМУ ПРАДПРЫЕМСТВУ)..."

**Камянтар:** гэты артыкул вызначае парадак інкарпарацыі нацыянальнай індустрыі Рэспублікі Беларусь у структуру нацыянальнай эканомікі Расейскай Федэрацыі праз механізм інстытута трастававага ўпраўленьня.

Артыкул 9 Пагадненьня вызначае, што ФПГ будзе рэгістравацца кампетэнтнымі органамі той краіны, на тэрыторыі якой знаходзіцца галоўнае прадпрыемства, у дадзеным выпадку - Расея, у адпаведнасьці з заканадаўствам Расейскай Федэрацыі.

Вывад 1.

ФПГ як міжнародная манаполія будзе знаходзіцца пад юрысдыкцыяй Расейскай Федэрацыі.

Вывад 2.

Базавыя падаткавыя плацяжы будуць спаганяцца ў дзяржаўны бюджэт і рэгіянальныя бюджэты Расейскай Федэрацыі.

Вывад 3.

Уся маса прыбытку будзе акумулявацца на рахунках галоўнага прадпрыемства ў Расейскай Федэрацыі.

Цытуем артыкул 9 у рэдакцыі, падпісанай прэм'ер-міністрам Рэспублікі Беларусь:

"БАКІ ДАМОВІЛІСЯ, ШТО РЭГІСТРАЦЫЯ ФІНАНСАВА-ПРАМЫСЛОВЫХ ГРУП АЖЫЦЬЦЯЎЛЯЕЦЦА КАМПЕТЭНТНЫМІ АРГАНІЗАЦЫЯМІ ТОЙ ДЗЯРЖАВЫ, НА ТЭРЫТОРЫІ ЯКОЙ, У АДПАВЕДНАСЬЦІ З ЗАСНАВАЛЬНЫМІ ДАКУМЕНТАМІ, БУДЗЕ ЗНАХОДЗІЦЦА ГАЛОЎНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА ГРУПЫ Ў ПАРАДКУ, ВЫЗНАЧАНЫМ ЗАКАНАДАЎСТВАМ ГЭТАЙ ДЗЯРЖАВЫ".

Артыкул 6 умацоўвае значэньне артыкула 9 і цалкам выводзіць прамысловыя комплексы, уключаючы зямельныя ўчасткі, інжынерныя сеткі і камунікацыі з-пад юрысдыкцыі нацыянальнага заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Прывядзем тэкст артыкула 6 у рэдакцыі, падпісанай прэм'ер-міністрам Рэспублікі Беларусь.

"АРТЫКУЛ 6. БАКІ ЗЫХОДЗЯЦЬ З ТАГО, ШТО ПРЫ ФАРМІРАВАНЬНІ ФІНАНСАВА-ПРАМЫСЛОВЫХ ГРУП НА ПАДСТАВЕ МІЖУРАДАВЫХ ПАГАДНЕНЬНЯЎ КАМПЕТЭНТНЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ ДЗЯРЖАВЫ, НА ТЭРЫТОРЫІ ЯКОЙ БУДЗЕ ПРАВОДЗІЦЦА РЭГІСТРАЦЫЯ ГРУПЫ, АЖЫЦЬЦЯЎЛЯЮЦЬ ЭКСПЕРТЫЗУ ПРАЕКТА ЎТВАРЭНЬНЯ ГЭТАЙ ГРУПЫ Ў ПАРАДКУ І Ў ТЭРМІНЫ, УСТАНОЎЛЕНЫЯ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ ЗАКАНАДАЎСТВАМ".

У артыкуле 10 гэтага Пагадненьня даецца пералік прамысловых прадпрыемстваў Рэспублікі Беларусь, якія, ў адпаведнасьці з вышэйпералічанымі артыкуламі гэтага Пагадненьня, аўтаматычна становяцца суб'ектамі гаспадарчага права Расейскай Федэрацыі, г.зн. эканамічнай асновай палітычнай інкарпарацыі Рэспублікі Беларусь у склад Расейскай Федэрацыі.

Цытуем артыкул 10 сапраўднага Пагадненьня ў рэдакцыі, падпісанай прэм'ер-міністрам Рэспублікі Беларусь:

"БАКІ ЛІЧАЦЬ ПЕРСПЕКТЫЎНЫМ СТВАРЭНЬНЕ ФІНАНСАВА-ПРАМЫСЛОВЫХ ГРУП У НАСТУПНЫХ СФЕРАХ ДЗЕЙНАСЬЦІ:

ЗДАБЫЧА І ПЕРАПРАЦОЎКА РАСЕЙСКАЙ НАФТЫ НА БАЗЕ НАФТАПЕРАПРАЦОЎЧЫХ ПРАДПРЫЕМТСВАЎ У ЗАХОДНЯЙ СІБІРЫ РАСЕЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ І НАФТАПЕРАПРАЦОЎЧЫХ ЗАВОДАЎ У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ;

(Працяг на другой старонцы.)

# ЗЯНОН ПАЗЬНЯК АБ ПАЛІТЫЧНЫМ СТАНОВІШЧЫ І ПЕРСПЕКТЫВЕ БЕЛАРУСІ

## З выступу на Сойме БНФ "Адраджэньне" 11 лютага 1995 года

Калі раней мы толькі гаварылі аб перспектыве стварэньня паліцэйскай дзяржавы на Беларусі, то зараз гэта становіцца рэальнасьцю. Рэальнасьцю стновіцца і палітычная інкарпарацыя Беларусі ў склад Расеі. Прайшло шэсьць месяцаў з таго часу, як КДБ перамог на прэзідэнцкіх выбарах. Да ўлады прыйшлі людзі, якія не зьбіраліся займацца эканомікай, якія ёй і не займаюцца. Яны займаюцца толькі пытаньнямі ўлады і ўласнасьці. Яны займаюцца пытаньнямі ўлады, каб стварыць структуры і папоўніць іх людзьмі, якія будуць выконваць палітыку інкарпарацыі. Прэзідэнцкая адміністрацыя, Савет бясьпекі, сілавыя міністэрствы праводзяць інтэнсіўную кадравую перабудову. Ключавыя пасады займаюць былыя функцыянеры КПСС, людзі з КДБ і Расейскіх спецслужбаў, перавага аддаецца асобам расейскай нацыянальнасьці і асабіста адданым Прэзідэнту. Пачынаеццаператрэска апарату сярэдняга зьвяна, разбураецца сістэма ўлады, выкідваюцца спецыялісты, разбураецца іерархічная сістэма. Стварэньне Прэзідэнцкай вертыкалі - гэта рэанімацыя старой сістэмы КПСС з субардынацыяй зьверху да нізу. Задача вертыкалі - падмяніць слабенькія Саветы. Карыстаючыся тым, што выканаўчая ўлада можа выдаваць Указы, гэтая ўлада бярэ на сябе ўсе функцыі ўлады. Гэта тактыка стварэньня паліцэйскай дзяржавы. Згодна з гэтай тактыкай адбываецца ўмацаваньне сілавых структураў: МУС, КДБ. Пасьля путчу 1991 года і развалу Саюза засталася адзіная саюзная структура - КДБ. КДБ працаваў на Саюз, зараз працуе на Расею. Адпаведна гэтаму адбываецца ўмацаваньне і перабудова гэтай структуры. Прэзідэнт раз-пораз выказвае незадавальненьне КДБ, каб замяніць беларусаў у яго структурах на стаўленікаў Расейскіх спецслужбаў. Зараз на ўтрыманьне афіцэра КДБ выдзяляецца ў чатыры разы больш сродкаў, чым на вайсковага афіцэра, тым не менш, войска - аб'ект асаблівай палітыкі. Пры Кебічы для кантролю за войскам быў створаны асобны камітэт Данілава. Беларускаму Народнаму Фронту, ў свой час, удалося правесьці ідэю стварэньня Беларускага Войска. Але БНФ не змог спыніць яго разрабаваньне. Праводзілася мэтанакіраваная палітыка вывазу ў Расею вайсковай маёмасьці. Зараз беларускае войска раскрадзена поўнасьцю. На момант стварэньня ў Беларускім Войску было амуніцыі на два мільёны жаўнераў. Сёньня навабранцаў апранаюць у неданоскі. Было зброі на 40 гадоў безперапыннай вайны. Сёньня няма чым страляць на стрэльбішчах і палігонах. Быў дзесяцігадовы запас медыкаментаў. Сёньня ў шпіталях лечаць усё больш масажом ды добрым словам. Распрададзена маёмасьці на мільярды долараў. Праведзена этнічная чыстка войска. Выкінуты ўсе больш-менш сьвядомыя афіцэры. Зараз гэтае войска становіцца наогул нікому непатрэбным. Тым больш, што самыя баяздольныя адзінкі перадаюцца ў МУС. Ствараюцца сілы супраць унутранага ворага. Такім чынам, наша дзяржава аказваецца ў руках Масквы. Гэта палітыка Візантыйскай імперыі. Так падрыхтоўваўся разбор Рэчы Паспалітай.

Характэрнай рысай дзейнасьці Прэзідэнта зьяўляецца невыкананьне законаў і самаўпраўства. Гэтай дзейнасьці, фактычна, патурае Вярхоўны Савет, але Прэзідэнту патрэбен вораг. Аднаго БНФ яму мала і ён знайшоў ворага ў асобе ўсё таго ж Вярхоўнага Савета. Гэта не выпадкова. Вярхоўны Савет - галіна ўлады, і ён можа ўзяць на сябе ініцыятыву рэформаў, тым больш, што гэта закладзена ў Канстытуцыю. Да таго ж, надыходзяць выбары. Калі будзе выбраны нармальны Вярхоўны Савет, то ён будзе кантраляваць дзеяньні Прэзідэнта і нават зможа адхіліць яго ад улады.

Зараз для прэзідэнцкай каманды існуюць два варыянты выхаду:

1. Выйграць выбары і стварыць паслухмяны Вярхоўны Савет.
2. Зьнішчыць парламент наогул.

Тады застаецца адна хунта. Трэба чакаць і гэты варыянт. Адзін з дэпутатаў ужо прапанаваў падрыхтаваць залу для паседжаньняў у будынку Вярхоўнага Савета, каб у выпадку чаго можна было засядаць там, таму што зараз пры ўладзе знаходзяцца авантурысты, якія прапрацоўваюць і варыянт гарачай вайны.

Падпісаныя дакументы аб расейскіх базах, мытным саюзе, прамысловых групах вядуць да страты незалежнасьці. Гэтыя паперы падпісалі ворагі Беларусі. Кабінет Міністраў увёў іх у дзеяньне без ратыфікацыі. Працэс разбурэньня дзяржавы пачаўся. Зараз усе сілы накіроўваюцца ў сферу палітычнай барацьбы.

Грамадзтва.

Сродкі масавай інфармацыі ў руках Прэзідэнцкай хунты. Нашы магчымасьці абмежаваныя. Але людзям становіцца ўсё горш і гэта ацьвярэзвае іх. Мы павінны ісьці на кантакт з людзьмі праз уласныя сродкі.

Нашая стратэгія.

Мы павінны супрацьстаяць міжнароднай ізаляцыі Беларусі.

Беларускі Народны Фронт заручыўся падтрымкай шэрагу міжнародных дэмакратычных арганізацый. Таму неабходна канкрэтна заняцца прыцягненьнем замежных назіральнікаў для кантролю за выбарамі.

Не дапусьціць узброеных канфліктаў і рэпрэсій. Калі пральецца кроў, то гэта ўжо нельга будзе спыніць.

Мы павінны правесьці акцыю супраць уцягваньня Беларусі ў расейскія войны.

Магутны Беларускі Народны Фронт - гэта аснова кансалідацыі нацыі. Іншай сілы няма.

## ЧАРГОВЫ СОЙМ БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

11 лютага 1995 года ў Менску адбыўся чарговы Сойм БНФ "Адраджэньне".

На парадак дня Сойму былі вынесены наступныя пытаньні.

1. Аб палітычным становішчы і перспектыве Беларусі.
2. Аб дзеяньнях БНФ у сувязі з пагрозай уцягваньня Беларусі ў ваенныя канфлікты.
3. Аб падрыхтоўцы да выбараў.
4. Вылучэньне прадстаўнікоў у склад акруговых выбарчых камісіяў.
5. Аб зьездзе БНФ.
6. Аб юбілейных датах.

Па першаму пытаньню з дакладам выступіў старшыня БНФ "Адраджэньне" Зянон Пазьняк. Паведамленьні зрабілі дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Лявон Баршчэўскі і старшыня Хрысьціянска-дэмакратычнага саюзу жанчын Беларусі Людміла Пеціна.

Па другому пытаньню даклад зрабіў дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Валяньцін Голубеў. Слова бралі таксама Віктар Івашкевіч - сакратар Управы БНФ, Кастусь Жынь - старшыня Гарадзенскай гарадзкой Рады БНФ, спадары Абразкоў з Вілейкі, Банькевіч з Менску, Людміла Пеціна і сп. Анатоль Крыварот з Берасьця. Было вырашана пачаць з 13 лютага 1995 года ўседзяржаўную акцыю "Народ супраць вайны". Мэта акцыі - збор некалькіх мільёнаў подпісаў пад патрабаваньнямі:

- дэнансацыі Беларусьсю пагадненьня аб калектыўнай бясьпецы краін СНД;
- прызнаньня несапраўднымі пагадненьняў з Расеяй, падпісаных 6 студзеня 1995 года;
- неадкладнага і поўнага вываду расейскіх войскаў і вайсковых аб'ектаў з тэрыторыі Беларусі.

Сойм БНФ вылучыў прадстаўнікоў у акруговыя выбарчыя камісіі і прызначыў чарговы чацьвёрты зьезд на 8 красавіка 1995 года.

Мікола Апцыновіч даклаў аб утварэньні "Камітэта па сьвяткаваньні 50-х угодкаў заканчэньня Другой Сусьветнай вайны ў Эўропе".

**Станіслаў СУДНІК.**

## ХТО КАГО ЛАЕ?

Апошнім часам Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь абрынуўся на Вярхоўны Савет за тое, што той пабраў сабе лішніх прывілеяў у "Законе аб Вярхоўным Савеце..." і не дадаў іх Прэзідэнту ў "Законе аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь".

Пры ўсім усяляк праводзіцца думка, што гэта гады БээНэФаўцы ўсё пракруцілі. З гэтай нагоды прыводзім паведамленьне Ўправы БНФ "Адраджэньне" ад 30 студзеня 1995 года, г.зн. напярэдадні прыняцьця законаў.

### *ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ*

*Управы БНФ "Адраджэньне"*

*Управа БНФ "Адраджэньне" пацьвярджае, што Народны Фронт заўсёды адмаўляў неабгрунтаваныя прывілеі.*

*Мы выступаем супраць прыняцьця законаў аб Кабінеце Міністраў, аб Вярхоўным Савеце і аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь пры наяўнасьці ў іх артыкулаў, якія ўзаконьваюць неабгрунтаваныя прывілеі для членаў ураду, дэпутатаў і Прэзідэнта.*

*30 студзеня 1995 г.*

Такім чынам, калі дэпутаты БНФ супраць прывілеяў, то каго лаяў Прэзідэнт? Застаюцца камуністы, ветэраны і наменклатура. Як кажуць: "Свой сваяне пазната".

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**

# БЕЛАРУСЬ: ОПТАМ І Ў РОЗЬНІЦУ

ЗБУДАВАНЬНЕ ТРАНЬЗІТНАГА МАГІСТРАЛЬНАГА ГАЗАПРОВАДА Ў ЗАХОДНЮЮ ЭЎРОПУ;

ВЫТВОРЧАСЬЦЬ БУЙНАГАБАРЫТНЫХ ШЫН;

СТВАРЭНЬНЕ НОВЫХ КАНСТЫТУЦЫЙНЫХ МАТЭРЫЯЛАЎ;

ВЫТВОРЧАСЬЦЬ ТРАНСПАРТНЫХ СРОДКАЎ І РУХАВІКОЎ ДА ІХ;

ВЫТВОРЧАСЬЦЬ ТРАКТАРОЎ І ІНШЫХ МАШЫН І АБСТАЛЯВАНЬНЯ ДЛЯ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ І РУХАВІКОЎ ДА ІХ;

ВЫТВОРЧАСЬЦЬ ТЭХНАЛАГІЧНАГА АБСТАЛЯВАНЬНЯ ДЛЯ ПЕРАПРАЦОЎКІ ГАЛІН АГРАПРАМЫСЛОВАГА КОМПЛЕКСУ;

ВЫТВОРЧАСЬЦЬ ДЫЯГНАСТЫЧНАГА І ІНШАГА МЕДЫЦЫНСКАГА АБСТАЛЯВАНЬНЯ;

РАБЫЁПРЫБОРАБУДАВАНЬНЕ І ОПТЫКА-ЭЛЕКТРОННАЕ ПРЫБОРАБУДАВАНЬНЕ, ВЫТВОРЧАСЬЦЬ ВЫРАБАЎ ЭЛЕКТРОНІКІ, РАКЕТНА-КАСЬМІЧНАЙ ТЭХНІКІ І СЬПЕЦТЭХНІКІ.

У ДАЛЕЙШЫМ, ПА ЎЗАЕМНАЙ ДАМОЎЛЕНАСЬЦІ БАКОЎ, МОГУЦЬ БЫЦЬ ВЫЗНАЧАНЫ І ІНШЫЯ ПРЫЯРЫТЭТНЫЯ СФЕРЫ ДЗЕЙНАСЬЦІ".

Камянтар: размова ідзе аб самых буйных, перспектыўных і стратэгічных прамысловых прадпрыемствах у жыцьцёва важных для Рэспублікі Беларусь галінах нацыянальнай індустрыі.

У падпункце 1 артыкула 11 гэтага Пагадненьня, у супрацьлегласьць з дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, закладзена аснова якасна іншай канцэпцыі прыватызацыі дзяржаўнай уласнасьці на ўзроўні цэлых галін, як сістэмы міжнароднай змовы дзяржаўнай і гаспадарчай бюракратыі праз інстытут траставага ўпраўленьня і закладнага права. Дадзены артыкул датычыцца, ў большай меры, насельніцтва Рэспублікі Беларусь, дзе 90 працэнтаў уласнасьці, якая належыць прыватызацыі, на сёньняшні дзень належыць дзяржаве, чым грамадзян Расейскай Федэрацыі, дзе прыватная ўласнасьць ужо перавышае 50 працэнтаў.

Цытуем падпункт 1 артыкула 11:

"У МЭТАХ СТЫМУЛЯВАНЬНЯ СТВАРЭНЬНЯ І ДЗЕЙНАСЬЦІ ФІНАНСАВА-ПРАМЫСЛОВЫХ ГРУП БАКІ БУДУЦЬ НА ПАРЫТЭТНАЙ АСНОВЕ ПРАДПРЫМАЦЬ НАСТУПНЫЯ МЕРЫ Ў АДПАВЕДНАСЬЦІ З ЗАКАНАДАЎСТВАМ ДЗЯРЖАВЫ, НА ТЭРЫТОРЫІ ЯКОЙ ЯНЫ АЖЫЦЬЦЯЎЛЯЮЦЦА: ПЕРАДАЧУ Ў ДАВЕРНАЕ ЎПРАЎЛЕНЬНЕ ФІНАНСАВА-ПРАМЫСЛОВАЙ ГРУПЕ ЦІ ЯЕ ЎДЗЕЛЬНІКУ ЧАСОВА ЗАМАЦАВАНЫХ ЗА ДЗЯРЖАВАМІ ПАКЕТАЎ АКЦЫЙ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ - УДЗЕЛЬНІКАЎ ГРУПЫ..."

У падпункце 2 артыкула 11 дэкларуецца механізм прыватызацыі фінансаў у форме заліка запазычанасьці ФПГ. У адпаведнасьці з дадзеным артыкулам, дзяржавы, якія падпісалі Пагадненьне, абавязаны будуць узяць на сябе праз расходную частку дзяржаўнага бюджэту фінансавыя абавязкі ФПГ, што прывядзе да значнага скрачэньня даходнай часткі дзяржбюджэта.

Цытуем падпункт 2 артыкула 11:

"ЗАЛІК ЗАПАЗЫЧАНАСЬЦІ ПРАДПРЫЕМСТВА, АКЦЫІ ЯКОГА РЭАЛІЗУЮЦЦА НА ІНВЕСТЫЦЫЙНЫХ КОНКУРСАХ (ТАРГАХ), У АБ'ЁМ ІНВЕСТЫЦЫЙ, ПРАДУГЛЕДЖАНЫХ УМОВАМІ ІНВЕСТЫЦЫЙНАГА КОНКУРСУ (ТОРГУ), ДЛЯ ФІНАНСАВА-ПРАМЫСЛОВАЙ ГРУПЫ-ПАКУПНІКА".

У падпункце 3 артыкула 11 дэкларуецца механізм адчужэньня дзяржаўнай уласнасьці ад дзяржавы праз інстытут закладнага права. Дзяржаўна-гаспадарчая наменклатура ў асобе кіраўніцтва ФПГ для атрыманьня міжнародных крэдытаў у СКВ атрымлівае права, ў адпаведнасьці з дадзеным артыкулам, закласьці дзяржаўную ўласнасьць - аб'ект дадзенага Пагадненьня.

Дадзены пункт артыкула 11 адкрывае шырокія магчымасьці для буйных махінацый і злоўжываньня па схеме: кіраўніцтва ФПГ бярэ крэдыты ў замежных банках пад заклад прамысловых комплексаў, зямельных участкаў, інжынерных сетак і канструкцый, выводзіць крэдыт у сферу ценявога абарота, а расплочваецца за крэдыты і працэнты па іх - закладзенай маёмасьцю, якая была атрымана ад дзяржаў-удзельнікаў дадзенага Пагадненьня ў траставае ўпраўленьне.

Цытуем падпункт 3 артыкула 11:

"...ПРАДАСТАЎЛЕНЬНЕ ДЗЯРЖАЎНЫХ ГАРАНТЫЙ ДЛЯ ПРЫЦЯГНЕНЬНЯ РОЗНАГА РОДУ ІНВЕСТЫЦЫЙНЫХ РЭСУРСАЎ, У ТЫМ ЛІКУ І З ВЫКАРЫСТАНЬНЕМ МЕХАНІЗМУ ЗАКЛАДА".

"Ценявы" кабінет лічыць неабходным прывесьці цалкам тэкст артыкула 11 у рэдакцыі, падпісанай прэм'ер-міністрам Рэспублікі Беларусь:

"АРТЫКУЛ 11. У МЭТАХ СТЫМУЛЯВАНЬНЯ СТВАРЭНЬНЯ І ДЗЕЙНАСЬЦІ ФІНАНСАВА-ПРАМЫСЛОВЫХ ГРУП БАКІ БУДУЦЬ НА ПАРЫТЭТНАЙ АСНОВЕ ПРАДПРЫМАЦЬ НАСТУПНЫЯ МЕРЫ Ў АДПАВЕДНАСЬЦІ З ЗАКАНАДАЎСТВАМ ДЗЯРЖАВЫ, НА ТЭРЫТОРЫІ ЯКОЙ ЯНЫ АЖЫЦЬЦЯЎЛЯЮЦЦА: ПЕРАДАЧУ Ў ДАВЯРАЛЬНАЕ ЎПРАЎЛЕНЬНЕ ФІНАНСАВА-ПРАМЫСЛОВАЙ ГРУПЕ ЦІ ЯЕ ЎДЗЕЛЬНІКУ ЧАСОВА ЗАМАЦАВАНЫХ ЗА ДЗЯРЖАВАМІ ПАКЕТАЎ АКЦЫЙ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ - УДЗЕЛЬНІКАЎ ГРУПЫ; ЗАЛІК ЗАПАЗЫЧАНАСЬЦІ ПРАДПРЫЕМСТВА, АКЦЫІ ЯКОГА РЭАЛІЗУЮЦЦА НА ІНВЕСТЫЦЫЙНЫХ КОНКУРСАХ (ТАРГАХ), У АБ'ЁМ ІНВЕСТЫЦЫЙ, ПРАДУГЛЕДЖАНЫХ УМОВАМІ ІНВЕСТЫЦЫЙНАГА КОНКУРСУ (ТОРГУ), ДЛЯ ФІНАНСАВА-ПРАМЫСЛОВАЙ ГРУПЫ - ПАКУПНІКА; ПРАДПСТАЎЛЕНЬНЕ РОЗНАГА РОДУ ІНВЕСТЫЦЫЙНЫХ РЭСУРСАЎ, У ТЫМ ЛІКУ З ВЫКАРЫСТАНЬНЕМ МЕХАНІЗМУ ЗАКЛАДУ".

У падпункце 2 артыкула 12 дэкларуецца, што ні дзяржава, падпісаўшая дадзенае Пагадненьне ў асобе кіраўнікоў урадаў, ні кіраўніцтва ФПГ не нясуць абавязкаў адзін перад другім - у тым ліку і за магчымыя махінацыі, злоўжываньні з выкарыстаньнем механізму завуаліраванага продажу дзяржаўнай уласнасьці праз інстытут закладнога права. Падобныя дзеяньні ФПГ, у адпаведнасьці з дадзеным Пагадненьнем, не нясуць прыкмет злачынства і не маюць прававых вынікаў.

Цытуем п.2 артыкула 12:

**"Бакі не нясуць адказнасьці па абавязках фінансава-прамысловых груп, а фінансава-прамысловыя групы не нясуць адказнасьці па абавязках бакоў".**

У п.1 артыкула 12 пагадненьня дэкларуецца абавязак кожнага з бакоў фінансаваць з уласных крыніц працэс лабіраваньня інтарэсаў ФПГ: **"Кожны з бакоў будзе вырашаць паўстаючыя ў ходзе стварэньня і дзейнасьці фінансава-прамысловых груп пытаньні, якія патрабуюць яго ўдзелу".**

Аналіз тэкста Пагадненьня, заключанага 6 студзеня 1995 года, дазваляе зрабіць вывады аб яго сапраўдных мэтах:

**Эканамічныя мэты:**

1. Вывядзеньне найбольш капіталаёмкай часткі нацыянальнай індустрыі са сферы нацыянальнай прыватызацыі.
2. Змова дзяржаўна-гаспадарчай бюракратыі Рэспублікі Беларусь і Расейскай Федэрацыі з мэтай авалоданьня цэлымі галінамі нацыянальных эканомік дзьвюх краін на праве прыватнай уласнасьці.
3. Канцэнтрацыя вытворчасьці, капіталаў і стратэгічнай інфраструктуры (магістральныя газа- і нафтапровады, сувязь, дарогі, зямельныя ўчасткі) у руках вузкага кола асоб, якія належаць да замкнёнай карпарацыі - былой партыйнай наменклатуры.
4. Манапалізацыя нацыянальных рынкаў дзьвюх краін да падтрыманьня высокіх цэн на прадукты і паслугі, выраблямыя прадпрыемствамі фінансава-прамысловых груп, і стварэньне штучных бар'ераў у выглядзе высокіх мытных пошлін і акцызаў для больш якаснай і таннай прадукцыі з трэціх краін.

**Палітычныя мэты:**

1. Аднаўленьне на аснове прыватнай уласнасьці аналагаў Глаўкаў Саюзнага падпарадкаваньня часоў СССР у форме фінансава-прамысловых груп.
2. Разбурэньне эканамічнай асновы суверэнітэта Рэспублікі Беларусь як першы этап палітычнай інкарпарацыі ў склад Расейскай Федэрацыі.
3. Рэанімацыя прымусова накіроўваемай гаспадаркі краін-удзельніц Пагадненьня і стратэгічны адыход ад курса на рынычную эканоміку.
4. Рэстаўрацыя на апісаным вышэй эканамічным фундаменьце ўмерана-таталітарнай палітычнай мадэлі.

**Ценявы (грамадзкі) Кабінет Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь.**

**25 студзеня 1995 г., г.Менск.**

# ГРАМАДЗТВА

## ПІШУ ТАБЕ З ГОРАДА МАЗДОКА

**Той, хто стала глядзіць канал "Астанкіна" ці расейскае тэлебачаньне, жадаючы даведацца праўды пра падзеі ў Чачні, даўно ўжо зразумеў, што аб'ектыўнага асьвятленьня гэтай трагедыі з Масквы пачуць нельга. На жаль, газета "Пагоня" не мае свайго карэспандэнта ў Грозным, але, дзякуючы сваім прыхільнікам, мы маем магчымасьць надрукаваць ліст спадарыні Самсонавай, якой удалося вырвацца з гэтага пекла.**

"Добры дзень, Слава! Пішам да цябе з горада Маздока. Сюды мы эвакуіраваліся саматуж 10 студзеня. Адразу ж зарэгістраваліся ў міграцыйнай службе. Дзякуючы рэгістрацыйнаму пасьведчаньню, атрымліваем раз на тыдзень 28 банак тушонкі, 4 кілі мукі, 3 кілі цукру, а таксама дзіцячае харчаваньне - 14 банак дзіцячай тушонкі і дзьве банкі згушчанага малака. Яшчэ трэба дадаць да нашага рацыёну 14 слоікаў пюрэ з садавіны. Атрымліваем гэтае харчаваньне на складзе раз на тыдзень, у чацьвер. У гэты ж дзень выплочваецца адзіначасовая дапамога - 2500 рублёў на аднаго чалавека. Праўда, гэтых грошай мы яшчэ не атрымлівалі. Трымаемся за лік грошай, якія я нагандлявала да вайны. Не ведаю, колькі нам тут прыдзецца жыць. Пакуль што, часова, жывем у майго дзядзькі, непадалёк ад Маздока. Гэта, што тычыцца цяперашняга нашага жыцьця. Але калі ўспомню пра вайну, то адразу ўсплывае жудасны малюнак, з якога мы, персанажы, цудам ураталіся.

Войска ўвайшло 12 сьнежня, але да 31 сьнежня - дня, калі яны ўварваліся ў горад, - мы жылі няблага. Бамбардзіроўкі з паветра вялікай шкоды цывільнаму люду не нанесьлі. Праўда, адна з бомбаў упала перад нашым домам. На шчасьце, нас у кватэры ў той час не было. Таму сямья панесла ўрон, застаўшыся без ваконнага шкла. Увогуле наш раён, дзе знаходзіўся іпадром, меней пацярпеў. Чаго нельга сказаць пра іншыя месцы, асабліва цэнтр. Ад адной бомбы, што трапіла ў жылы квартал, поўнасьцю згарэў шматпавярховы дом, рэстаран "Акіян", арабелаўская крама і крама нафтапрадуктаў. Мы хадзілі глядзець пажарышча - відовішча, я табе скажу, не для слабых. Адна бомба - гэта "кветкі", а "ягадкі" зьявіліся, калі прыйшлі жаўнеры. Было дзесяць гадзін раніцы. Я зьбіралася рыхтавацца да Новага Году. І ў гэты момант, з боку новага аэрапорту, па аўтастрадзе ўздоўж нашага дому пайшлі калоны бронетэхнікі. За паўгадзіны наш спакойны раён ператварыўся ў пекла. Танкі, ідучы міма нашага дома, нечакана паварочваюць свае гарматы і пачынаюць страляць па нашых мірных дамах. Трое сутак мы ратаваліся ад танкаў і бэтээраў у бомбасховішчы недабудаванай школы. Холад страшны, падлога з бетону, сесьці няма дзе. Праз трое сутак нашы дзеці - Маша і Аляксей - пачалі хварэць. Са страхам за ўласнае жыцьцё, за жыцьцё і здароўе дзяцей мы з мужам прабраліся ў прыватны сектар да знаёмых. Але прытулку і там надоўга не знайшлі. Вайна была ў сваім апагею: кулі, асколкі сыпаліся тысячамі на дах, сьцены прыватных дамоў. Зразумеўшы, што і тут не будзе спакою, мы вырашылі прабрацца да Чарнарэчча. Пехатою на падарожжа мы страцілі два дні. Зьдзіўленьню нашаму не было меры, калі ўбачылі торжышча, дзе гандлявалі людзі. Газ, цяпло - як быццам і няма вайны. Разьмясьціліся ў бацькоў мужа і зажылі.

Я пісала, што расейскія танкі распачалі страляніну, усім паверхам мы зьбеглі ўніз. Выбегчы на двор не маглі, бо ён прастрэльваўся. Усім скопішчам мы стаялі ў пад'езьдзе. Нас заўважылі з расейскага бэтээра і стрэлілі. На шчасьце, снарад трапіў вышэй, бо калі б крыху ніжэй, то ён трапіў бы ў мяне з дзецьмі. Ад выбуху дзьверы пад'езда вырвала і яны паляцелі на людзей. Усё навокал загарэлася, дым, агонь, крыкі, плач дзяцей - усё зьмяшалася ў адзін момант на пляцоўцы. Мы разьбегліся па кватэрах. Мой муж пайшоў у разьведку, каб высьветліць дарогу да бомбасховішча. Спроба апынулася няўдалай - яго зноў абстралялі з бэтээра. Тое ж самае было і падчас яго спробы знайсьці шлях да прыватнага сектара. Жаўнеры яго заўважылі здалёк, і гэта шчасьце, інакш я была б удавой.

Бацькі пажадалі каб мы засталіся ў Чарнарэччы да канца вайны,а яе канца не было відаць. Да таго ж невядома ці будзе спакой тут. Тое, што мы бачылі, спакушала нас быць далей ад бойкі. Рызыкаваць сабой - адно, а вось дзецьмі мы не маглі і таму на ўласную ініцыятыву падаліся ў бежанцы. Тут ціха, даюць харч, вопратка свая. Па апошніх зводках ведаю, што наш раён поўнасьцю разьбіты. Што сталася з маім бацькам, які застаўся ў Грозным, не ведаю. Мы ўсё кінулі і ад'ехалі дзеля жыцьця дзяцей, а бацька не паехаў са сваімі дзецьмі і ўнукамі. Ён на разьвітаньне сказаў, што будзе берагчы ад марадзёраў нажыты скарб.

У Стаўрапольскім краі мы спадзяёмся пражыць да канца вайны, а там як Бог рассудзіць".

Вось такое пісьмо, у якім адлюстраваны лёс толькі адной сям'і. А колькі іх, такіх вось сем'яў, што перажылі страх, абстрэлы, бамбардзіроўкі, страцілі жыльлё, надзею, веру.

За памылкі палітыкаў плаціць народ. Ці не занадта высокая плата? Ці не занадта шмат памылак?

**Падрыхтаваў да друку Г.АСТРОЎСКІ.**

## ПОСЬПЕХІ РЭФОРМ ЗЬЯВЯЦЦА НЕ ХУТКА

Аналітыкі часопіса "Economist Intelligence Unit" пішуць пра тое, што мэта ўрада Беларусі зьнізіць штомесячную інфляцыю да 5 працэнтаў да сярэдзіны года і да 1 працэнта да канца года - малаверагодная. Па іх прагнозах, беларускі рубель дойдзе да адзнакі 30-40 тысяч за 1 долар ЗША, перш чым наступіць пэўная стабілізацыя.

Часопіс прагназуе падзеньне аб'ёму нацыянальнага прадукту на 7-9 працэнтаў у бягучым годзе, і толькі да канца 1996 года, пры ўмове працяга рэформ, пачнуць назірацца першыя прыкметы паляпшэньня сітуацыі.

На сёньняшні дзень адна трэць дарослага насельніцтва рэспублікі набыла прыватызацыйныя ваўчары, большасьць прадала іх за грошы ( каля 8 цэнтаў за адзін). Да пачатку бягучага года прыватызавана толькі 73 дзяржпрадпрыемствы ці каля трох працэнтаў ад іх агульнай колькасьці. Захад пакуль праяўляе мала цікавасьці да працэсаў прыватызацыі ў Беларусі і да выхаду на беларускі рынак, акрамя рэдкіх фірмаў, такіх, як Coca-Cola (ЗША) і Cable & Wireless (Велікабрытанія). Галоўныя пытаньні, якія сёньня стаяць перад краінай, па-ранейшаму, больш палітычныя, чым эканамічныя. Прэзідэнту А.Лукашэнку давядзецца працаваць з новым парламентам пасьля выбараў ў траўні. І калі ў прэзідэнта і парламента будзе дастаткова моцная палітычная воля, то рэформы могуць прынесьці чакаемы вынік. Але, нават пры самым спрыяльным разьвіцьці падзей, на гэта Беларусі спатрэбіцца вельмі шмат часу.

**СІМ**

## У ВІЛЕЙЦЫ БУДУЮЦЬ НА КАСЬЦЯХ

Вілейскі анкадыспансер месьціцца ў былой турме. Умовы, скажам сьціпла, далёкія ад лячэбных. Таму вырашана было распачаць будоўлю новага трохпавярховага корпуса. У канцы катлавана экскаватар нечакана пачаў выкідаць чалавечыя косьці. Але гэтая аклічнасьць працу не спыніла. Таксама не выклікалі ні навукоўцаў, ні спецыялістаў. Рабочым прапанавалі сабраць косьці і, за плату, пахаваць на могілках.

Тры вялікія скрыні былі напакаваны рэшткамі 55-ці чалавек. Рабочыя кажуць, што ўсе чарапы былі з дзіркамі. Трэцяга сьнежня скрыні закапалі на мясцовых могілках. Зноў жа без усялякіх там навук.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## ГУЧЫЦЬ «СЛОВА»!

Новая тэлеперадача зьявілася на Гарадзенскім абласным тэлебачаньні. Перадача мае назоў "Слова". Вядучая перадачы, Марыя Сіланьцьеўна Шаўчонак, пра яе расказала наступнае: "Слова" - гэта адраджэнчая праграма, накіраваная на паглыбленае вывучэньне гісторыі і традыцый Прынёманскага краю. Мы мяркуем, што менавіта дзякуючы "Слову" зможам аб'яднаць усіх, каму балюча за родны край. "Слова" пакуль што будзе выходзіць два разы на месяц. Да ўдзелу ў перадачы плануем запрашаць гісторыкаў, палітыкаў, музыкаў, пісьменьнікаў, сьветароў".

**Г.ВАСІЛЕВІЧ.**

## ГЭТА ДЛЯ НАС ДРУГАЯ ВАЙНА



Раённы цэнтр Хойнікі Гомельскай вобласьці знаходзіцца ў 70 кіламетрах ад Чарнобыля. У першы ж дзень аварыі на атамнай электрастанцыі ўвесь раён быў пакрыты радыёнуклідным пылам. У многіх населеных пунктах пражываньне стала небясьпечным для здароўя людзей. Таму з 20 з іх жыхароў адсялілі. Адселены былі людзі і з вёскі Бабчын, у якой налічвалася больш 400 сялянскіх гаспадарак. Людзі пакідалі родныя хаты са скарбам, які маглі несьці ў руках, астатняе засталося на сядзібах. Мне, ў складзе дэлегацыі, нядаўна ўдалося пабываць у Бабчыне, нашым гідам быў ураджэнец гэтай вёскі, вядомы беларускі паэт Мікола Мятліцкі. І што мы ўбачылі? Склалася ўражаньне, быццам нядаўна па вёсцы пранеслася бура. Многія хаты стаяць без стрэх, разбураны, няма вокан, дзьвярэй.

- Мае бацькі, - гаворыць Мікола Мятліцкі, - захапілі з сабой толькі тое, што маглі панесьці, астатняе засталося ў хаце. А цяпер нічога гэтага няма, усё панесьлі. нават падлогу разбурылі, відавочна шукалі ці самагонку, ці каштоўнасьці. З хаты зьнікла ўсё, засталіся пустыя пакоі. Атрымліваецца, што ад чарнобыльскай катастрофы адным бяда, а другім - лафа. Для маіх землякоў гэта другая вайна, а можа яшчэ і горш.

**НА ЗДЫМКУ: Хата бацькоў паэта М.М.Мятліцкага ў в.Бабчын.**

**Ільля БАРЫСАЎ.**

## ШТО ГАВОРАЦЬ ЛЮДЗІ АБ ПРЭЗІДЭНЬЦЕ

Суботні ранак, бадай, самы гаманкі ў Горадні на цэнтральным рынку. І новы, за горадам, не пустуе, толькі беднаму чалавеку там сёньня рабіць няма чаго. Людзі, даведзеныя палітыкай урада да галоты, едуць сюды, каб што прадаць, што таньней падкупіць. Гісторыя распарадзілася так, каб даваенны і пасьляваенны знакаміты Скідальскі базар сёньня ізноў прапісаўся ў цэнтры горада. Толькі цэны...

Вось нестары яшчэ дзед нясе плецены кошыкі.

- Па чым просіце? - пытаемся.

- Па сем тысяч за адзін. Нядорага. Раней я за адзін кошык мог купіць тут жа паўтара кілаграмы мяса, а зараз...

З тралейбуса выйшла жанчына з самаварам. Прыгожы, Тульскі няйнакш. Цэлых паўгадзіны, пакуль ехалі з Фолюша, расьпякала яна ўлады. Дасталося і прэзідэнту. За згублены ўклад у ашчаднай касе, за тое, што на старасьці даводзіцца прадаваць самыя дарагія сэрцу рэчы, каб было за што купіць хлеб ды малако...

Памятаю, перад Новым Годам, колькі тут стаяла бабуль з ёлачнымі цацкамі.

- Ці няўжо ў вас унукаў няма? - са шкадаваньнем пытаецца ў адной з іх пакупнік.

- Сынок, я ўжо не памятаю пах мяса. Унукі мяне зразумеюць.

Ва ўсім цывілізаваным сьвеце старому чалавеку гарантавана бестурботнае жыцьцё на пеньсіі. Гады два таму, ў Германіі, давялося размаўляюць з былым салдатам нямецкага войска, што служыў інтэндантам. Дык яму зараз прадастаўлена права з вялікай скідкай адпачыць на тых жа Багамах. Мы ж сваіх людзей, заслужаных, але забытых, выкінулі на вялікія базары і маленькія таўчкі, бо за іх мізэрныя пеньсіі не пражывеш і тыдня.

Дык хто сёньня "герой" базарных дыялогаў? Несумненна - прэзідэнт. І нічога тут цікавага няма. Ягоныя выбаршчыкі стаяць на марозе і пад дажджом амаль з працягнутай рукой, гэта тыя тысячы ашуканых людзей, якім спадар Лукашэнка ўжо да Новага Года паабяцаў лепшае жыцьцё. Паслухаем, аднак, гэтыя дыялогі і маналогі ў нікуды.

- Забрала прыватызацыйныя чэкі, але ж што з імі рабіць, падмануць ізноў, як з тымі нулямі...

- Людзі, думала, што даб'юся праўды ў адміністрацыі прэзідэнта. Тры гадзіны ў чарзе прастаяла ў аблвыканкаме, а вынік той жа - ідзі, бабуля, і не дуры галаву. А я ўжо спадзявалася, бо не дапамаглі ні ў райвыканкаме, ні ў пракуратуры...

- А я, бабы, буду на прэзідэнта ягонай жонцы скаргу пісаць... (усе сьмяюцца).

- Пішы, пішы... Яго Мілка па 300 грамаў масла ў месяц дае...

- Гавораць, аднаго начальніка з "вертыкалі" арыштавалі. Матэрыялы з дзяржаўнай будоўлі на свой катэдж завёз... Проста ў кабінеце ўзялі ў кайданкі...

- Канешне, крычаць толькі аб мафіі, а дзе яна? Хочаце, пакажу. Вунь ён, пайшоў у "Мерсэдэс" з балыкамі ды шынкай... Гэтыя хеўры на нашым горы шыкуюць... Антончыка на іх патрэбна, вось каго!

Вось яны, патэнцыяльныя выбаршчыкі, якія апрытомнелі ад ліпеня 1994 года, якія наўрад ці, наогул, пойдуць на наступныя выбары. І толькі моцная ідэя, а не "палітаддзельская хлусьня", як гэта ўжо здарылася, можа яшчэ ўліць цяпло надзеі ў сэрцы гэтых людзей.

**Алесь РАГАЧЭЎСКІ.**

## ГІСТОРЫЯ ІХ НЕ НАВУЧЫЛА

*Спадару*
*Славаміру Чантарыцкаму-Адамовічу*
*220034, г.Менск, вул.Захарава, 42*

*Шаноўны спадар Славамір!*

*Летам мінулага года да нас прыйшоў ліст з пагрозамі ад беларускай Нацыяналістычнай Арганізацыі "Правы Рэванш". За гэты час назьбіралася пэўная колькасьць інфармацыі. А пасьля гутарак з некаторымі асобамі вырашыў атрымаць каментарый у гэтай справе ад Вас, аб чым Вас і прашу.*

*З пашанай*
*WICEPREZES ZWIAZKU*
*Polakow na Bialorusi*
*Tadeusz MALEWICZ*

---

*Спадар Т.Малевіч!*

*Арганізацыя "Правы Рэванш" не раздае ніякіх каментараў сваім этнапалітычным апанентам. Тым не менш, лічым неабходным растлумачыць наступнае.*

*Першае. Нас не цікавіць, хто і з якой прычыны пагражае Вам ад нашага імя.*

*Другое. Раім Вам не шукаць падтрымкі ў дзяржструктурах, перш за ўсё ў КДБ, з мэтаю паўплываць на Арганізацыю "Правы Рэванш". У адрозьненьне ад сёньняшніх уладаў на Беларусі, якія праводзяць палітыку нацыянальнай здрады, мы, "Правы Рэванш", выступаем у абарону Беларускай Канстытуцыі як Асноўнага Закону дзяржавы. Любыя спробы дзейнічаць супраць нас мы расцэньваем як спробы дзейнічаць супраць Канстытуцыі, г.зн. супраць Беларускай Дзяржавы. І пра гэтую пазіцыю добра вядома ўладам.*




*Трэцяе. "ПР" разглядае Саюз палякаў Беларусі як палітычную арганізацыю, пра што сьведчаць наступныя Вашы дзеяньні: рэабілітацыя ваякаў АК на нашай тэрыторыі, якія зьнішчалі беларускі нацыянальна сьвядомы элемент у час нямецкай акупацыі; прапаганда адраджэньня так званай польскасьці сярод беларускага этнасу; іншыя вядомыя нам факты, якія зьяўляюцца фактамі антыбеларускай чыннасьці СПБ.*

*У сувязі з вышэй прыведзеным, перад рэгіянальнымі камандамі актыўнасілавога дзеяньня пастаўлены задачы па нейтралізацыі ўплываў прапольскага элементу на беларускі электарат. Той, хто навесіў на наш народ ярлык талерантнасьці, мусіць атрымаць яго назад. Той, хто спадзяецца на нашай зямлі рабіць свае брудныя гешэфты, павінен памятаць пра прыклад Чачні.*

*За Канстытуцыю, Дзяржаву, Нацыю!*

*Прынята на сходзе кіраўнікоў рэгіянальных каманд у Менску 06.02.1995 г.*

**P.S.:Друкуючы гэтыя два лісты, рэдакцыя не падзеляе выказаных аўтарамі меркаваньняў. Аднак, кіруючыся найперш прынцыпам, што чытач павінен мець праўдзівую і поўную інфармацыю, мы зьмясьцілі допісы спадароў Т.Малевіча і С.Адамовіча на старонках "Пагоні". Спадзяемся, што нашы чытачы змогуць выказацца наконт няпростых і набалелых пытаньняў, узьнятых шаноўнымі аўтарамі.**

# СЫМОН БУДНЫ, ЗА 465 ГАДОЎ ДА АПОШНЯГА АДРАДЖЭНЬНЯ

**Углядаючыся ў постаці вялікіх людзей эпохі "Адраджэньня" на Беларусі, і вольна, і нявольна прымяраеш іх да постаці першапраходца, да постаці тытана - Францыска Скарыны. Скарына ішоў як зьнешне, так і ўнутрана, ад эпохі сярэднявечнай да рэнесансна-гуманістычнай. Ён зрабіў выключную справу - выданьне Бібліі - на новай для хрысьціянскага сьвету мове, але практычна не спрабаваў ісьці на перагляд нейкіх там дагматаў рэлігіі. Скарына пайшоў на рэфармацыю царкоўна-славянскай мовы, увёўшы ў свае выданьні магутны пласт жывой беларускай лексікі, але, па высновах большасьці вучоных, асновай мовы Бібліі Скарыны зьяўляецца ўсё ж такі лексіка царкоўна-славянская, хаця тут можна і спрачацца, таму што мноства царкоўных славянізмаў тлумачацца тагачаснымі граматычнымі нормамі і больш правільна было б сказаць, што Скарына, пераклаўшы Біблію на беларускую мову, захаваў царкоўна-славянскую граматыку.**




Будны нарадзіўся на 40 гадоў пазьней Скарыны на другім канцы ВКЛ, дакладней у вёсцы Буды на Мазовіі, але ёсьць усе падставы сцьвярджаць, што беларускую мову ён ведаў з маленства, а ўлічваючы тое, што інтарэсы ВКЛ у свой час сягалі далёка за яго ўмоўныя межы і, зыходзячы з назвы вёскі, можна меркаваць, што вёска была беларуская і беларускамоўная.

У 1554 годзе, калі яму было 14 гадоў, Сымон Будны - сын дробнага шляхціца - паступае ў Кракаўскі універсітэт. Хутчэй за ўсё ён пасьпявае скончыць яшчэ і тэхналагічны факультэт Базельскага універсітэта і, менавіта там, успрымае ідэі рэфармацыі.

Сымон Будны выдаў свой "Катэхізіс" у Нясьвіжы ў 1562 годзе, праз 43 гады пасьля выхаду Бібліі Францыска Скарыны.

40 гадоў - розьніца ва ўзросьце, прыблізна 40 - розьніца ў выданьні першых кніг. Прыблізна 40-гадовы ўзрост абедвух на гэты момант. І 40 гадоў гісторыі, два пакаленьні.

Будны быў выкладчыкам у пратэстанцкай школе ў Вільні ў 1558 годзе, калі яго запрасіў Мікалай Радзівіл Чорны спачатку ў Клецк, а потым у Нясьвіж. Трэба адзначыць, што само па сабе пратэстанцтва з цяжкасцю пракладвала дарогу ў ВКЛ і было ў зародкавым стане да таго часу, пакуль не стала адпавядаць інтарэсам вышэйшых станаў грамадзтва ВКЛ. Гэта абдудзецца крыху пазьней, а на пачатку вызнаньне нейкай плыні пратэстанцтва патрабавала значнага радыкалізму ў поглядах, пастаяннай гатоўнасьці перагледзець догмы, хай нават і рэлігійныя, што, акрамя ўсяго, было яшчэ і даволі небясьпечна. Будны валодаў гэтым радыкалізмам. Ён не мог прыняць што-небудзь бездоказна, на падставе чыгойсьці аўтарытэту. Менавіта такі чалавек павінен быў зьявіцца каля Мікалая Радзівіла Чорнага. Радыкалізм Буднага не быў нечым дадзеным яму ад прыроды раз і назаўжды. Безумоўна, закладзены ў характар ён разьвіваўся з году ў год, ад думкі да думкі, ад кнігі да кнігі. Гэты радыкалізм праявіўся адразу ж пры выданьні першаа кнігі "Катэхізіса". І праявіўся ў першую чаргу ў мове. Будны рашуча адкінуў усе догмы царкоўна-славянскай мовы, якіх, у значнай ступені, трымаўся Скарына. Ён узяў за аснову жывую, размоўную мову беларусаў, а не, фактычна мёртвую, царкоўна-славянскую. Не так проста было выйсьці з гэтай мовай на "Катэхізіс". Шмат якія словы, тэрміны, зьявы, што падлягалі апісаньню, не мелі прадметных, а значыць і слоўных аналагаў на Беларусі. Не было беларускай граматыкі. Толькі інтуітыўна прымацавалася правіла: "як чуецца, так і пішацца". Але была ўжо Біблія Скарыны, было выдатнае веданьне мовы, была сьмеласьць думкі. І калі пра "Біблію" Скарыны гавораць, што ў аснове мовы яе ляжыць царкоўна-славянская лексіка, то пра "Катэхізіс" Буднага спрэчак няма. У аснове яго - лексіка беларуская. Так, там яшчэ дастаткова царкоўных славянізмаў і царкоўна-славянскіх нормаў, але гэта перш за ўсё таму, што частка іх пранікла-такі ў жывую мову. Мы можам гэта сцьвярджаць хаця б таму, што праявы гэтых формаў дайшлі і да нашага часу. Другая частка славянізмаў утварылася ўжо з уласнабеларускіх словаў, "прычасаных" царкоўна-славянскай граматыкай, ад якой нават Будны не мог адыйсьці адразу. Гэта зьява абсалютна натуральная. Яе можна было б пазьбегнуць толькі з пераходам на іншую графіку, што і адбылося ў татарскіх "Кітабах", напісаных арабскімі літарамі на жывой беларускай мове.

Вырашыўшы моўнае пытаньне яшчэ ў "Катэхізісе", Будны ў наступных сваіх кнігах рухаўся ў тым жа кірунку. Можна не сумнявацца, што калі б Будны меў моўную рэформу за самамэту, то мы мелі б на гэтай ніве значна большыя вынікі. Але для Буднага моўная рэформа была толькі часткай агульнай рэформы філасофска-рэлігійнай сістэмы, якая грунтавалася на прынцыпах спрашчэньня. Пераклад рэлігійнай літаратуры на зразумелую ўсім мову поўнасьцю адпавядаў гэтаму прынцыпу. З другога боку, моўная рэформа была сродкам наблізіць новыя ідэі да народа, стварыць аснову для іх распаўсюджваньня.

З ростам напалу рэлігійна-філасофскага змаганьня ідзе эвалюцыя поглядаў Буднага ў бок яшчэ большага радыкалізму. Калі першыя яго кнігі "Катэхізіс" і "Пра апраўданьне грэшнага чалавека перад Богам" пранікнуты духам кальвінізму, то далей Будны становіцца на пазіцыі антытрынітарызму. У 1564 годзе Будны разам з Крышкоўскім выдае "Гутаркі сьвятога Юсьціна, філосафа і пакутніка з Трыфанам Іудзеем".

Пасьля сьмерці Мікалая Радзівіла Чорнага Будны пакідае Нясьвіж, пераязджае ў Лоск, у маёнтак Кішкаў. Найбольш значная яго праца тут - выданьне Новага Запавета з прадмовай, каментарыямі і заўвагамі, якія зьявіліся першай у сусьветнай літаратуры спробай радыкальнай, рацыяналістычнай крытыкі евангельскіх кніг.

У тым жа годзе Будны выступіў супраць рэлігійнага дагмату пра боскую прыроду Хрыста (ліст да англійскага гісторыка Дж.Фокса).

Будны быў настолькі значнай фігурай у філасофскім сьвеце таго часу, што мог дазволіць сабе займаць зусім асобную пазіцыю, ні прымыкаючы ні да якіх груповак і плыняў. Ён адначасова пасьпявае палемізаваць як з арыянскімі левымі, праідэолагамі будучых камуністаў, так і з езуітамі, не саступаў і праваслаўным.

Самым надзейным аўтарытэтам у справах веры і пазнаньня Будны лічыў "Біблію".

Не ўхіляўся Будны і ад праблем сьвецкага жыцьця. Вучоны-гуманіст, ён бачыў перспектыву цывілізацыі ў гуманізацыі грамадзства, але не ішоў далей канстытуцыйнай манархіі. Хаця на той час і гэта было верхам радыкалізму.

Займаючыся на працягу доўгага часу пытаньнямі беларускай мовы, Будны не мог не вызначыць, што менавіта гэтая мова зьяўляецца першаасновай усіх славянскіх моваў і мостам паміж імі. Прыйшоўшы да гэтага, Будны прыйшоў і да нацыянальнай адметнасьці беларусаў, да іх высокай культуры і вялікай наканаванасьці на Зямлі. Філасофска-эстэтычныя погляды Буднага - гэта першая спроба ідэалагічна-навуковага афармленьня ідэй беларускай нацыянальнай самасьвядомасьці. Трэба сказаць, што для нацыянальна-беларускіх ідэй Буднага была ўжо падрыхтавана глеба. Радзівілы, Пацы, Хадкевічы, Кішкі, Сапегі, магнаты, шляхта нараджаліся і паміралі пад знакам Пагоні, усеагульнага пад'ёму дзеля славы, сілы, багацьця і бясьпекі Айчыны. Патрыятызм, які браў пачаткі ад Рагнеды, афармляўся, дзякуючы Буднаму, у нацыянальную беларускую сьвядомасьць.

Гэтая сьвядомасьць была настолькі моцнай, што, каб зьнішчыць яе, трэба было зьнішчыць саміх яе носьбітаў, што і рабілася ворагамі ўсіх масьцей на працягу стагоддзяў.

Гэтая сьвядомасьць трымае нас і сёньня, не дае апусьціць рукі і распластацца пад прэсам здрады, нацыянальнага нігілізму, "братняга" шавінізму. Толькі зразумеўшы, што значыць для выжываньня беларускай нацыі нацыянальная ідэя, можна ацаніць велічнасьць постаці Сымона Буднага ў нашай гісторыі.

**Станіслаў СУДНІК.**

# ФРАНЬЦІШКА УРШУЛЯ РАДЗІВІЛ

## 290 ГАДОЎ СА ДНЯ НАРАДЖЭНЬНЯ

Са старажытнай сталіцы Польшчы - Кракава, Францішка Уршуля Вішнявецкая прыехала ў Нясьвіж - неафіцыйную сталіцу Вялікага княства - жонкай Міхала Радзівіла Рыбанькі, які за жыцьцё паўторыць традыцыйны для многіх Радзівілаў шлях і дойдзе да пасады гетмана ВКЛ. Княжна Вішнявецкая атрымала ў свой час выдатную адукацыю, што разам з прыродным талентам стала перадумовай зьяўленьня на беларускай зямлі адметнага літаратара. Нават лісты мужу, які часьцяком адлучаўся з Нясьвіжа, маладая княгіня пісала вершамі, а калі ў двухгадовым узросьце памёр іх першы сын, выліла сваё гора таксама ў вершах. Пісала Францішка Уршуля па польску, што само па сабе было для яе абсалютна натуральным.

Не адразу падышла Францішка Уршуля да сваёй галоўнай справы, але не магла яна прайсьці ля яе, бо жыла ў Нясьвіжы. Яшчэ ў 1696 годзе тут адбылося першае вядомае прадстаўленьне школьнага тэатра, калі мясцовыя шкаляры паказалі п'есу "Млечны шлях Радзівілаўскага арла". Праз два гады на нясьвіжскай сцэне была пастаўлена драма ""Вакх, ап'янелы ад крыві і забойства". З гэтага часу Талія і Мельпамена - музы камедыі і трагедыі - не пакідалі Нясьвіж. Так, у 1723 годзе, ставілася драма "Відовішчы сьвету", якая апавядала пра Хрыстафора Калумба, а ў 1730 і 1732 гадах - п'есы "Дух бураў" і "Залатая свабода па-за свабодай улады царства мудрых".

Няма падставаў сьцьвярджаць, што княгіня Радзівіл мела нейкае дачыненьне да школьнага самадзейнага тэатра, але і паварот яе літаратурнай дзейнасьці ў бок тэатра быў нечым абумоўлены. Літаратурныя схільнасьці Францішкі Уршулі былі блізкія і Міхалу Казіміру. Нездарма ён застаўся ў гісторыі не толькі як вялікі гетман, але і як вялікі мецэнат. У 1724 годзе ён заснаваў сваю славутую капэлу.

Пасьля ўсяго сказанага даволі заканамерным выглядае запрашэньне ў Нясьвіж замежнай трупы ў 1640 годзе. Апякункай трупы стала Францішка Уршуля. Разам з гэтым яна прыступіла да стварэньня ўласнай трупы з прыгонных артыстаў і хутка змагла адмовіцца ад паслуг іншаземцаў.

У 1746 годзе княгіня ставіць сваю першую п'есу "Дасьціпнае каханьне". У 1747-1748 г.г., па загаду княгіні, архітэктарам К.Ждановічам быў пабудаваны ў Нясьвіжы "Камедыенхаўз" - першы тэатр ва Усходняй Эўропе. Нічога падобнага яшчэ не было ні ў Вільні, ні ў Маскве, ні ў Санкт-Пецярбурзе, ні ў Кіеве. Нямецкая назва паказвае, што і для Польшчы гэта была навінка. У гэты ж час, так званы, "зялёны тэатр", тэатр пад адкрытым небам, быў пабудаваны і ў Альбе - загараднай рэзідэнцыі Радзівілаў.

**(Працяг у наступным нумары)**

# АПОШНЯЯ СТАРОНКА

## ПРЭМІЯ СОРАСА ЕДЗЕ Ў ГОРАДНЮ

Багатая на розныя таленты СШ N 20 Горадні. У свой час яна спрэзэнтавала першаму прэзідэнту Рэспублікі Беларусь дарадцу - былога педагога А.Фядуту.

А сёньня ізноў навіна - настаўніку хіміі гэтай школы Дзьмітрыю Тоўкачу прысуджана прэмія ад Беларускага фонду Сораса. Педагагічны стаж спадара Тоўкача складае 20 гадоў. За гэты час ён падрыхтаваў шмат пасьлядоўнікаў, у тым ліку і дзьве свае дачкі, якія зараз зьяўляюцца студэнткамі Маскоўскага інстытута хіміі імя Мендзялеева.

**М.М.**

## КУДЫ ВЫ, ХЛОПЦЫ?

Як ужо паведамлялася ў сродках масавай інфармацыі, у ноч з шостага на сёмага лютага ўцяклі са зброяй з вайсковых частак пад Менскам двое жаўнераў, ураджэнцы Шчучынскага раёна.

Прозьвішчы гэтых жаўнераў вядомыя - гэта І.Будзіловіч з вёскі Барці і Г.Грыгарэнка з вёскі Аляхноўцы.

Пошукі, на якія задзейнічана ледзь не ўсё беларускае войска, а яно мусіць толькі на гэта і здольна, посьпехаў пакуль не прынесьлі.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## МІНЮСТ ЗАРЭГІСТРАВАЎ БЗВ

13 лютага выканкам Патрыятычнага руху БЗВ атрымаў паведамленьне з Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь аб рэгістрацыі арганізацыі.

Такім чынам, дзейнасьць Патрыятычнага руху "Беларускае згуртаваньне Вайскоўцаў" ізноў будзе дзейнічаць на законнай падставе.

**Усяслаў ВОЙНІЧ,**
**палкоўнік.**

# СПОРТ

## СТРАТЫ НА СВАІХ ПЛЯЦОЎКАХ

Нечакана страцілі ачкі на сваіх пляцоўках хакеісты гарадзенскага ХК "Нёман" і гульцы наваполацкага "Паліміру".

Гарадзенцы, прымаючы ў родных сьценах лідэра сваёй падгрупы на адкрытым чэмпіянаце Расеі клуб "Гарняк", у першай сустрэчы дабіліся перамогі з лікам 3:2, гульня праз дзень завяршылася нічыйным вынікам 3:3. Наваполацкі "Палімір" экзаменаваў на сваёй пляцоўцы каманду "Пульс" з Петразаводзку. Наваполачане ў першай гульні дабіліся перамогі з буйным лікам 7:1, а ў сустрэчы праз дзень паспыталі горач няўдачы, саступіўшы "Пульсу" 2:3.

Правёўшы па чатыры гульні нашы каманды маюць адпаведна пяць і чатыры ачкі і займаюць дзьве апошнія прыступкі ў сваёй падгрупе.

**Г.Н.**



"І ПЛЫВУЦЬ ЗІМЫ КАВАЛКІ..."
Фатаграфаваў Б.МЕШЧАРАКОЎ

## НАТАЛЬЛЯ ЗЬВЕРАВА ПРАЙГРАЕ

Пасеяная пад першым нумарам на прэстыжным тэнісным турніры, прызавы фонд якога складае 430 тысяч долараў, беларуская тэнісістка Натальля Зьверава нечакана саступіла ў другім крузе амэрыканцы Лізе Раймонд 6:7 і 6:7.

Паправіць сваё рэнамэ беларуска зможа выступаючы ў парным разрадзе.

**Г.Д.**

## В.ШАНТАЛОСАЎ - У СЬПІСЕ ЛЕПШЫХ

Варатар зборнай Беларусі па футболу Валеры Шанталосаў, які да сёлетняга сезону зьяўляўся асноўным галкіперам ніжагародзкага "Лакаматыву", ўключаны ў сьпіс 33 лепшых футбалістаў мінулага чэмпіянату Расеі па футболу.

Дарэчы, спадар Валеры пакінуў гэты раейскі клуб і выразшаў працягнуць кар'еру гульца ў Эўропе. Месца ў варотах ніжагародзкага клубу, па ўсёй верагоднасьці, зойме дублёр Шанталосава па зборнай - Андрэй Сацункевіч.

**Г.Б.**

## ЦЯЖКІЯ ПЕРАМОГІ

Прайшлі чарговыя гульні традыцыйнага гарадзкога турніру па мініфутболу. Наша "Пагоня" свае сустрэчы правяла з пераменным посьпехам. Спачатку пагоняўцы перамаглі клуб Мэблевай фабрыкі - лік 2:1, а затым, на апошніх секундах, аддалі перамогу (2:3) каманьдзе "Хімвалакно". Відаць, горыч нечаканага паражэньня станоўча паўплывала на гульцоў "Пагоні", бо ўжо ў наступным туры не паспытаўшая ў турніры горычы пройгрышу каманда мясакамбіната была разгромлена з буйным лікам 4:1.

Да канца турніра камандам засталося згуляць па чатыры гульні. "Пагоня" мае на сваім рахунку тры перамогі, сем пройгрышаў і дзесятае месца ў турнірнай табліцы.

**Г.А.**

# КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

**РАЗБОІ**

Калі на мінулым тыдні разбойныя напады пракаціліся хваляй па занёманскай частцы Горадні, то на гэтым - усе ўчынены ў Ленінскім раёне абласнога цэнтра.

Спачатку паступіла заява маладога гарадзенца, у якога каля інфекцыйнага шпіталю, пад пагрозай нажа, двое "варапаеў" адабралі грошы, андатравую шапку і скураныя пальчаткі.

У той жа дзень зламысьнікі былі ўстаноўлены і адпраўлены ў ІУЗ.

* * *

Праз дзень разбойны квартэт наведаўся на кватэру гарадзенкі па вул.Таўлая, калі тая знаходзілася на працы.

Злачынцы зьвязалі 76-гадовую маці гаспадыні і вынесьлі з кватэры найбольш каштоўныя рэчы.

* * *

Яшчэ адзін разбойны "наезд" зарэгістраваны ў доме N 40 па вул.Церашковай, дзе ў адной з кватэр "культурна" адпачываў у вясёлай кампаніі 27-гадовы, напэўна натуралізаваны, грамадзянін Ізраіля. Фіналам жа застольля стаў нож, які быў, літаральна, прыстаўлены да горла іншаземца: "Гані баксы, а не то... Час пайшоў!"

На другі дзень уся нахабная "тройка", злоўленая "на гарачым", давала паказаньні следчаму.

**СПРАВЫ ЗБРОЙНЫЯ**

Ранкам, на вуліцы Паповіча ў Горадні, міліцэйскі патруль "паклаў вока" на 25-гадовага гарадзенца. І не дарэмна. Падчас дагляду ў непрацуючага хлопца былі знойдзены самаробны пісталет з патронамі.

**КАНФУЗ**

Днямі ў казённым доме апынуўся старшыня абласнога спарткамітэту В.Старавойт. Высокаму чыноўніку прад'яўлена абвінавачаньне ў крадзяжы бетонных плітаў перакрыцьця, коштам у некалькі мільёнаў рублёў, якія той "прыхватызаваў" напярэдадні Новага Года з пляцоўкі, што побач з лядовым Палацам.

Мерай стрыманьня няўдаламу старшыні выбрана знаходжаньне пад вартай.

**СПРАВЫ МЕДНЫЯ**

Як і тыдзень таму, не спыняюцца крадзяжы каляровых металаў.

Здаецца, колькі можна? Няўжо яшчэ не ўсё пасьпелі скрасьці? Так, так - не ўсё...

На тыдні медзяныя крадзяжы ўчыняліся ў сярэднім па аднаму ў дзень. Як сьведчыць статыстыка раскрытых злачынстваў, асаблівую цікавасьць да медзі маюць падлеткі. Але калі ў камуністычныя часы школьнікі зьбіралі чорны метал і мелі за гэта толькі ганаровыя граматы, то сучасная моладзь за эквівалент бярэ "баксаметр". У выніку вось такая інфармацыя...

У в.Дакудава, на Лідчыне, двое школьнікаў разукамплектавалі шчыты лініі сувязі; у Мастоўскім і Гарадзенскім раёнах зладзеі пайшлі "далей і вышэй" - пазразалі правады паветраных ліній сувязі.

* * *

**"ВЫНАХОДНІЦТВЫ"**

У Горадні выкрыты маленькі падпольны "заводзік" па вытворчасьці каньяку. Уладальнік "прадпрыемства" - жыхар Ерэвана, узяты "на гарачым".

Тэхналагічны працэс "гарачай кропкі" не вызначаўся багатай фантазіяй.

"Трохзоркавы" выраблялі на кватэры, па вул.Пестрака, шляхам разбаўленьня "вогненай вады" і дабаўленьня афарбавальнікаў. Уся прадукцыя - 110 бутэлек "Армянскага" - разам з "тэхналагічным абсталяваньнем" канфіскаваны.

**ПАЖАРЫ**

Мінулыя дні сталіся на рэдкасьць гаруча-трагічнымі. Усяго ў агні загінула 4 чалавекі - пераважна ва ўласных дамах. У трох выпадках ахвярамі сталі састарэлыя людзі і інваліды. Яшчэ адзін пацярпелы маладзейшага ўзросту падчас пажару знаходзіўся на падпітку.

**ПА СЬЛЯДАХ "К.Х."**

Толькі чатыры дні спатрэбілася крымінальнаму вышуку, каб выкрыць злодзея, які "абчысьціў" легкавік капцёўскага ксяндза, у якім гаспадар неабачліва пакінуў 1000 долараў, 4 мільёны злотых і 300 тысяч рублёў.

Пэўна, што за кратамі ў 20-гадовага гарадзенца спакусаў будзе менш.

**У.ДАНІЛОВІЧ.**

## ЯКОЕ АДЗЕНЬНЕ НОСЯЦЬ У ЗША?

У нашых людзей склалася ўяўленьне, што большасьць амерыканак - высокія, даўганогія, зграбныя, з галавы да ног апранутыя ў "джынсу". На самой справе яны, асабліва ў маладосьці, вялікай зграбнасьцю не адрозьніваюцца. Нідзе не ўбачыш столькі, мякка кажучы, поўных дзяўчат гадоў 18-20, як у час адпачынку на пляжы ў Акіян-сіці на ўзьбярэжжы Атлантыкі. Пры гэтым яны апранаюцца вельмі вольна: носяць шорты, абцягваючыя брыджы, міні-спадніцы, не зважаючы на даўжыню ног, прыгажосьць каленаў і памер таго месца, на якое ўсё апранаецца.

Для моладзі ў Амэрыцы ёсьць шмат спакусаў: шакалад, цукеркі, арэхі, лёды - усё гэта зьядаецца быццам бы незаўважна, між справай, а ўласны легкавік пазбаўляе магчымасьці гэтак жа незаўважна гэтыя калорыі змарнаваць.

У шматколькасных спартыўных залах для шэйпінгу, на трэнажорах і бегавых дарожках у асноўным людзі старэйшага ўзросту - гадоў трыццаці і вышэй. Гэта здараецца таму, што, "перахварэўшы" усімі "хваробамі" маладосьці, амэрыканец пачынае рабіць сваю кар'еру, бізнес, у першую чаргу, клапоціцца аб сваім здароўі і зьнешнасьці. І не толькі таму, што хварэць у ЗША нявыгадна па эканамічных меркаваньнях (на год там на хваробы даецца звычайна ўсяго шэсьць аплачваемых дзён), а яшчэ і таму, што для амерыканцаў шмат значыць іх імідж, важнай часткай якога зьяўляецца зьнешнасьць, адзеньне, фігура.

На першы погляд здаецца, што амерыканцам усё роўна, як яны выглядаюць. Але гэта зусім не так. Сапраўды, на адпачынку, падчас уік-энду, летам усе - ад аднагадовых дзяцей да састарэлых - ходзяць у рознай даўжыні шортах, а не ў плаўках.

Што характэрна для амерыканцаў - дык гэта дакладнае веданьне таго, што, куды і калі можна апранаць. І, зьбіраючыся на службу, напрыклад, амерыканка не дазволіць сабе выйсьці з хаты без адпаведнага макіяжу, з аблезлым манікюрам, у растаптаных туфлях ці запар два дні апранаць адну і тую ж сукенку. Недарэчным лічыцца, пры ўсёй дэмакратычнасьці амерыканскага грамадзтва, апранаць на службу глыбока дэкальтаваную сукенку на тонкіх шлейках з голай сьпіной ці вельмі шчырыя галавакружныя міні-спадніцы - усяму гэтаму месца ў рэстаранах, кавярнях, тэатрах, у гасьцях, на адпачынку.

Гардэроб амерыканак вельмі разнастайны. Яны могуць - былі б грошы - дазволіць сабе ўсё: ад супермоднага строя ад Шанэль да самых банальных абтрапаных джынсаў. Апошнія зусім здаюць свае пазыцыі - амерыканцы іх амаль не носяць: - ні "мочаных", ні "вароных", ні "гумавых", ні "пірамідаў", ні "бананаў". Адзінае, што яшчэ як-ніяк набываецца - звычайныя міні-джынсы, тыя, што калісьці мы называлі "тэхасы". Прадаюцца яны ў аддзеле працоўнага адзеньня.

Не ў пашане таксама джынсавыя курткі, спадніцы, кашулі. Выключэньне - вельмі папулярныя сярод маладых амерыканак - раскошны сарафан з "маечнымі" проймамі і забаўнай кішэнькай на сьпіне.

Увогуле такі "мехаваты" стыль без лішніх выточак, падрэзаў зараз у Амерыцы набірае папулярнасьць. Спецыялісты кажуць, што ў яе аснове рэч самая празаічная і актуальная для нас - такі крой не падкрэсьлівае фігуру, не робіць жанчыну надта "спакусьлівай", і вось ужо ў Амерыцы скарацілася колькасьць нападаў на жанчын на вуліцах, ды і вытворчасьць працы мужчын, кажуць, павялічылася. Што рашуча адрозьнівае нас ад амерыканцаў - гэта адносіны да адзеньня немаўлят: ніякіх пялёнак, распашонак, чэпчыкаў. З самага нараджэньня малышоў апранаюць у "нармальнае" адзеньне: трусікі, маечкі, шкарпэткі - летам, цёплыя касьцюмы з шэрсьці - зімой, ну і, канешне, аднаразовыя падгузьнікі з распушчанай цэлюлозы, якія маюць форму трусікаў і замацоўваюцца на "ліпучках".

Немаўля, такім чынам, з дня нараджэньня мае магчымасьць актыўна рухацца, а гэта для яго не толькі фізічнае развіцьцё, але і пазнаньне сьвету.

Дзіцячыя псіхолагі лічаць, што падмурак амерыканскага характару, такіх рысаў, як працавітасьць, свабодамыснасьць, уменьне ісьці на разумную рызыку, закладваецца ў калысцы - адсутнасьцю путаў на руках і нагах, а значыцца, і адсутнасьцю забаронаў на ўсялякую даступную ў такім узросьце дзейнасьць.

Вялікае значэньне адзеньню, сваму зьнешняму выгляду надаюць у ЗША не толькі жанчыны, але і мужчыны. Лічыцца, і не без падстаў, што пры тым спадзе эканомікі, які намеціўся там, падчас чарговых масавых звальненьняў і беспрацоўя, у барацьбе за "месца пад сонцам" выжывуць не толькі тыя, хто шмат ведае і вельмі энергічны, але і самыя элегантныя. Значыцца, не толькі капрызы моды, але і само жыцьцё робяць амерыканцаў вялікімі "шмотачнікамі".

**"НС"**

## ДЫРЭКТАР МОЖА ЗНОЎ ТРАПІЦЬ ЗА КРАТЫ

Пасьля пратэсту першага намесьніка Старшыні Вярхоўнага Суда У.Кандрацьцева, судовая калегія па крымінальных справах Гарадзенскага абласнога суда адмяніла сваё ж рашэньне аб зьмяненьні меры пакараньня ў адносінах дырэктара Лідзкага піўзавода У.Юфы і накіравала справу ў пракуратуру для далейшага дасьледаваньня.

29 верасьня 1993 года У.Юфа быў арыштаваны ва ўласным кабінеце супрацоўнікамі ўпраўленьня па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю МУС пасьля атрыманьня хабару ў суме 3000 рублёў ад дырэктара малога прадпрыемства "Іва". За гэтае злачынства, 4 ліпеня 1994 года, Лідзкі народны суд прыгаварыў У.Юфу да трох гадоў пазбаўленьня свабоды. Аднак 10 лістапада 1994 года судовая калегія па крымінальных справах Гарадзенскага вабласнога суда, прызнаўшы яго віну ў атрыманьні хабару, чамусьці зьмяніла меру пакараньня і прыгаварыла яго да двух гадоў выпраўляльных работ па месцу працы з утрыманьнем 20 працэнтаў заробку ў даход дзяржавы. Больш таго, Уладзімір Юфа быў адноўлены на пасадзе дырэктара Лідзкага піўзаводу, дзе працуе і па сёньняшні дзень.

**СІМ**

**"ПАГОНЯ"**

**Рэдактар М.МАРКЕВІЧ.**
**Заснавальнік:**
**культурна-асьветніцкі фонд**
**"БАЦЬКАЎШЧЫНА".**
**Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Даменіканская, 1.**
**Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.**
**Газета выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.**
**Пры перадруку спасылка абавязкова.**
**Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест разьмешчанай у газеце рэкламы.**
**Індэкс 63124.**
**Фотанабор, афсетны друк.**
**Гарадзенская абласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.**
Заказ 665.
Наклад 10782 паасобніка.